*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 13
Жнівень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

ВЫБАРЫ 2012

## МАГІЛЁЎЦЫ НЕ ЗБІРАЮЦЦА НА ВЫБАРЫ?

**З боршчыкі подпісаў у Магілёве скардзяцца на нізкую актыўнасць выбаршчыкаў.**

**Лідэр мясцовых сацыял-дэмакратаў Ігар Барысаў паведамляе, што людзі падпісваюцца не вельмі ахвотна. Амаль паловы няма на месцах. Большая частка людзей заяўляе аб тым, што не пойдзе на выбары, так як не бачаць у іх ніякага сэнсу. Таксама ён распавёў аб увядзенні «чорнага спісу» зборшчыкаў подпісаў у інтэрнатах. Так, у інтэрнаце па вуліцы Крупскай у вахцёркі знаходзіцца спіс асобаў, якім забаронены ўваход у будынак. Сярод іх праваабаронца Барыс Бухель, актывіст незалежнага прафсаюзу радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Аляксей Паўлоўскі, адзін з лідэраў магілёўскай арганізацыі Беларускай партыі левых Анатоль Заўялаў і іншыя дэмакратычныя актывісты. Усяго спіс складаецца амаль з 10 чалавек.**

***«Я зайшоў у інтэрнат і паведаміў вахцёру, што збіраюся збіраць подпісы ў падтрымку прэтэндэнта ў дэпутаты Леаніда Падбярэцкага. У яе адразу спрацавала ахоўная рэакцыя -- яна спытала маё прозвішча. Калі я прадставіўся, то яна дастала спіс на паперцы і пачала зачытваць яго ўслых, шукаючы там маё прозвішча. Аднак яго там не апынулася і яна, павагаўшыся, дазволіла мне прайсці ў інтэрнат»,*** **-- кажа Ігар Барысаў.** *11.08.2012 г.*




**Магілёўцы адмаўляюцца ўдзельнічаць у парламенцкіх выбарах. Такую высноўу зрабіў грамадзкі актывіст з Магілёва Аляксей Паўлоўскі.**

**Усяго за пару дзён ён сабраў 93 подпісы ў падтрымку байкоту выбараў. Актывіст упэўнены, што вялікую ролю ў дачыненні да магілёўцаў да ўладаў згуляў так званы «малочны скандал», калі вясной з прылаўкаў крамаў знікла сацыяльна значнае малако, замест якога з'явілася больш дарагое малако з кальцыем. І гэта пры тым, што ў Магілёве знаходзіцца адзін з найбольш буйных малочных камбінатаў Беларусі.**

***«Людзі да гэтага часу абураныя як адсутнасцю малака, так і бяздзейнасцю ўладаў горада. Бо ў Магілёўскі аблвыканкам паступіла ўжо мноства скаргаў, мноства пісьмовых заяў за подпісам вялікага ліку магілёўцаў. Таму нядзіўна, што людзі ахвотна ставілі подпісы за байкот парламенцкіх выбараў»,*** **-- падкрэсліў А.Паўлоўскі.**

***Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.***

## Дзе самая маленькая "мінімалка"?

**З 1 жніўня ў Літве павышана мінімальная заработная плата. Цяпер яе памер складае 850 літаў. Павышэнне "мінімалкі" паўплывае на зарплату больш за 200 тысяч работнікаў, заяўляе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Літвы.**

**Давайце паглядзім, наколькі памер мінімальнай заработнай платы ў суседніх краінах адрозніваецца ад яе памеру ў Беларусі.**

| Страна | Размер МЗП (в национальной валюте) | Размер МЗП (в долларах США) |
|---|---|---|
| Польша | 1500 злотых | 447,6 доллара |
| Латвия | 200 латов | 352 доллара |
| Литва | 850 литов | 301,8 доллара |
| Россия | 4611 российских рублей | 142 доллара |
| Украина | 1102 гривны | 135,9 доллара |
| Беларусь | 1,047 миллиона белорусских рублей | 125,8 доллара |

**Як вынікае з табліцы, "мінімалка" у Беларусі ніжэй, чым у любой з суседніх краін. Лідзіруе па гэтым паказчыку Польшча, дзе мінімум, які можа атрымаць работнік, дасягае 1500 злотых, або амаль 450 долараў. Паведамляецца, што ў наступным годзе мінімальная заработная плата ў Польшчы ўзрасце яшчэ на 100 злотых.**

**Далей з вялікім адрывам ідзе Латвія. МЗП ў гэтай краіне роўная 200 латам, або 352 даляра. У бліжэйшы час павялічваць яе ўрад не плануе.**

**Замыкае тройку лідэраў Літва з памерам мінімальнай зарплаты крыху больш за 300 даляраў.**

***Алесь СУВОРАЎ.***
Паводле FINANCE.TUT.BY

## Жніво на Магілёўшчыне

**Аграрыі рэгіёну пры ўраджайнасці 38,4 ц / га намалацілі 1.000.014 тыс. т. збожжа на 262 тыс. га. Гэта 78% усёй уборачнай плошчы. Наперадзе па агульным намалоту збожжа хлебаробы Магілёўскага і Шклоўскага раёнаў. Самая высокая ўраджайнасць належыць Магілёўскаму, Шклоўскаму, Круглянскага раёна. Лепшымі сярод сельскагаспадарчых прадпрыемстваў з'яўляюцца ААТ «Александрыйскае» Шклоўскага раёна - 78,8 ц / га, СВК «Гігант» Бабруйскага раёна - 72,3 ц / га, ЗАТ «АК «Зара» - 69,5 ц / га.**



**Больш за сем тысяч тон збожжа намалацілі ў такіх гаспадарках Магілеўскага раёна, як ЗАТ «АК Зара», СВК «Магілёўскі Лянок», ААТ «Цішоўка», СВК «Палыкавічы», ААТ «Магілёўская РАПТ». Уборачны экіпаж ЗАТ "АК" Зара" у складзе Сяргея Раманенкі і Сяргея Музыкантава першым у раёне намалаціў больш за 2 тысячы тон збожжа. Яшчэ 21 уборачны экіпаж раёна намалаціў больш за тысячу тон збожжа.**

**Больш за тысячу тон збожжа на рахунку дваццаці пяці кіроўцаў Магілёўскага раёна.** ***Міхась БАРАЗНА.***
Паводле газеты "Прыдняпроўская ніва".

## Прыпіскі зрабіліся нормай

**Сучасная гісторыя Беларусі ведае прыклады, калі, да прыкладу, на "Дажынках" чалавеку ўручаюць каштоўны падарунак, а потым не толькі яго адбіраюць, але і ўзбуджаюць крымінальную справу. І колькі ўлады не рапартуюць, што згубная звычка прыпісваць ураджай і іншае "знішчаная як клас", на самай справе аказваецца, што "жывы курылка".**


*Валерый Іваноў*

**У гэтым сэнсе паказальныя словы былога віцэ-прэм'ера беларускага ўрада Валерыя Іванова, які заявіў, што** ***"прыпіскі запар і побач". "Хаваюцца абуральныя факты. Па 300-500 тон мяса прыпісваюць",*** **-- прыводзіў ён прыклады.**

**6 жніўня бягучага года тэму скажэння статыстычнай справаздачнасці перад А.Лукашэнка ўздымаў кіраўнік Нацыянальнага статыстычнага камітэта Уладзімір Зіноўскі.**

**Ён распавёў аб ходзе праверкі дакладнасці справаздачных дадзеных, прадстаўленых сельскагаспадарчымі арганізацыямі. Па словах У. Зіноўскага, выяўлены шэраг недахопаў.**


*Уладзімір Зіноўскі*

***"У прыватнасці, выяўлена скажэнне справаздачных дадзеных некаторымі нядобрасумленнымі прадстаўнікамі прадпрыемстваў і арганізацый. Вінаватыя ў скажэнні статсправаздачнасці панясуць адпаведнае пакаранне: на іх складзеныя пратаколы, якія прыняты да вытворчасці судамі. На некаторых службовых асоб накладзеныя спагнанні, у тым ліку ў выглядзе штрафных санкцый. Магчыма, будуць прыняты таксама кадравыя рашэнні ",*** **-- падкрэсліў кіраўнік статыстычнага ведамства.**

***Міхась БАРАЗНА.***
Паводле "Товарищ.online".



## Алег ТРУСАЎ:

### *"Беларусам пагражае выраджэнне нацыі і ліквідацыя дзяржавы"*

## Беларусам пагражае выраджэнне нацыі і ліквідацыя дзяржавы

Сітуацыя з беларускамоўнымі школамі з году ў год пагаршаецца, хоць, здавалася б, ужо куды горш! Тым не менш, у гэтым навучальным годзе яшчэ менш юных беларусаў змогуць вучыцца на роднай мове. Аднак скарачэнне беларускамоўных школ нясе прамую пагрозу існаванню Беларусі як дзяржавы.

Увесну гэтага года стала вядома, што ў Беларусі зачыняюцца яшчэ 114 школ. У пераважнай большасці - беларускамоўныя ў сельскай мясцовасці.

На Магілёўшчыне школьнікаў, якія вучацца па-беларуску, у пяць разоў менш, чым тых, хто вучыцца на рускай мове.

Па словах старшыні грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай школы» Алеся Лозкі, *«скарачэнне школ у Беларусі, сапраўды, стала сумнай сацыяльнай з'явай. Калі ў самім далучэнні малакамплектных школ да больш буйных няма праблем для дзяцей, то яны праяўляюцца ў іншым. Справа ў тым, што пры гэтым дзеці з беларускамоўных школ пераводзяцца ў рускамоўныя і губляюць магчымасць навучання па-беларуску. Губляецца пераемнасць».*

Дакладныя лічбы па беларускамоўным школам і класам мы будзем мець толькі 1 верасня, таму што інфармацыя альбо хаваецца, альбо яе ніхто не збірае, так як людзі яшчэ ў адпачынках. Але спробы ствараць беларускамоўныя класы «Таварыства беларускай мовы» працягвае.

Тэндэнцыя скарачэння беларускамоўных школ - гэта ўжо шматгадовая палітыка. Давайце паглядзім на пачатак 90-х гадоў, калі ў некаторых гарадах большасць першых класаў школ сталі беларускімі. Тады пытанняў не было. Але для гэтага трэба, каб бацькі ведалі, што і ў універсітэтах будзе навучанне на беларускай мове, і начальства будзе ведаць беларускую мову. Тут, як гаворыцца, палітычнае пытанне. Калі б кіруючыя асобы ў Беларусі загаварылі б па-беларуску, у беларускія школы пайшлі б тысячы людзей.

У выніку, скарачэнне беларускамоўнай адукацыі прывядзе да ліквідацыі нацыі і дзяржавы, аднак пакуль казаць пра гэта рана. У апошнія гады ў кіруючых элітах ідзе барацьба паміж тымі, хто выступае за мову, культуру і незалежнасць, і маскоўскай «пятай калонай». Нягледзячы на тое, што гэтая барацьба, як кажуць, ідзе «пад дываном», яна пастаянна праяўляецца. То нешта з'яўляецца беларускае, то знішчаецца.

Праўда, пакуль сітуацыя не перайшла нейкую крытычную рысу, паколькі абсалютная большасць беларусаў, як моладзь, так і людзі ва ўзросце, за 21 год існавання незалежнасці пакуль асацыююць сябе з грамадзянамі асобнай дзяржавы са сваёй гісторыяй і культурай, а не часткай Расіі. У пэўныя моманты спрацоўвае фактар незалежнасці, які заўсёды прыводзіць да таго, што ў народзе ўмацоўваюцца нацыянальныя фактары - мова, культура, гісторыя. Вось, напрыклад, нядаўна была прэзентацыя кнігі Уладзіміра Арлова пра Вялікае княства Літоўскае, якую праводзіла бібліятэка Акадэміі навук. Дык там было няма дзе стаць. Зайсці ў залу было немагчыма - столькі прыйшло людзей. Ад моладзі да пажылых людзей. І ўсё куплялі кніжку, якая каштавала 350 тысяч! Вось вам і адказ. Кніга пабеларуску напісана і пра Беларусь.

**Алег ТРУСАЎ,**
*старшыня «Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны».*

## Дзе співаюцца хутчэй?



Дзе співаюцца хутчэй: у вёсцы ці ў горадзе? Статыстыкі на гэты конт у дзяржавы няма. Сваімі назіраннямі пра здароўе звычайных беларусаў падзялілася фельчар з вёскі Косцінка Магілёўскага раёна Вера Дзямідзенкава, якая працуе ў медыцыне ўжо паўстагоддзя.

*«Бытавое п'янства замучыла,* – распавяла Вера Цімафееўна. – *Маладыя добрыя хлопцы, прыгожыя жанчыны - усе п'юць. І кажам, што гэта дрэнна і шкодна, але ўсё роўна».*

Па назіраннях фельчара, зараз п'юць больш, чым 50 гадоў таму. Дзямідзенкава успамінае, што, калі пачынала працаваць, толькі адзін мужык на ўсю вёску мог дазволіць сабе валяцца п'яным пад плотам. Цяпер такіх значна больш.

Цяпер, па словах ветэрана медыцыны, і хварэюць больш: *«Раней людзі працавалі, аралі на сабе, малацілі рукамі. І ні ў каго ні ногі, ні рукі не хварэлі. Цяпер – ледзь не кожны пакутуе. І я лічу, што тут вінаватая экалогія: ўсеагульная хімізацыя, разам з радыяцыяй. А таксама, як гэта ні дзіўна прагучыць, добрае харчаванне, залішняя ежа. Каўбасу зараз можна ёсць штодня, а гэта не карысна. Трэба, так бы мовіць, пасьціцца – ёсць гародніна, малочныя прадукты, садавіна. Калі маці ў жніво агурок зрывала з градкі і з кропам з'ядала – тады і сіла ў руках была. А мяса пад'есці – адразу хочацца паляжаць».*

**Падрыхтаваў Сяргей ПІСЬМЕННЫ.**
Паводле газеты "Звязда".

## Украіна вяртае даўгі




Украіна выплаціла кампенсацыі траціны укладчыкам Ашчаднага банка СССР. За абясцэненыя ўклады людзям выплацілі 245,000,000 даляраў. Выплата украінскім Ощадбанком кампенсацый пачалася ў чэрвені 2012 года і будзе доўжыцца да 25 снежня гэтага года. Па папярэдніх разліках колькасць грамадзян, якія павінны атрымаць кампенсацыю, складае каля 6 мільёнаў чалавек. На пачатак жніўня кампенсацыю атрымалі 2,1 мільёна ўкладчыкаў і іх нашчадкаў, паведамляе прэс-служба банка. Ашчадны банк таксама выплачвае кампенсацыю ў межах астатку праіндэксаванага ўкладу, але не больш за 500 грыўнаў нашчадкам ўкладчыкаў, якія памерлі ў 2005-2012 гадах і не атрымалі кампенсацыю страт ад абясцэньвання. Кампенсацыю ўжо атрымалі каля 440 тысяч нашчадкаў памерлых ўкладчыкаў на агульную суму звыш 215.000.000 грыўнаў.

Між тым, Беларусь пакуль не гатовая да кампенсацыі савецкіх укладаў. Нагадаем, такое меркаванне выказаў А.Лукашэнка 8 мая 2012 года ў Авальнай зале, адказваючы на пытанні дэпутатаў. *«Былі б грошы - выплацілі бы,* – сказаў А.Лукашэнка. – *Я таксама адзін з пацярпелых: у тыя часы страціў больш за 3 тысяч рублёў, і маці мая таксама страціла энную суму. Але што казаць, калі грошай няма: каб вярнуць уклады, трэба з бюджэту (у лекараў, настаўнікаў, вайскоўцаў) забраць грошы і накіраваць на гэтыя мэты. Давайце пачакаем, станем на ногі, забудзем пра тое, што было ў мінулым годзе, – і, можа быць, вернемся да гэтага пытання».*

**Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.**

## "Пишем вашей милости..."

**У архіве "усесаюзнага старасты" М.І.Калініна захавалася вялікае мноства пісем з усіх куткоў былога СССР, у якіх людзі звярталіся да ўлады ў пошуках праўды і справядлівасці, спадзяючыся на паразуменне і дапамогу. Вось адзін з такіх лістоў, які быў напісаны ў чорным 1937-м годзе...**

*"Пишем вашей милости и просим вас убедиться на наше письмо, которое оплакивалось у северной тундры не горькими слезами, а черной кровью, когда мы, пролетарии Могилёвского округа, собрались и решились поехать отыскивать своих родных.*

*Приехавши на место среди северной тундры Нандомского района, мы увидели высланных невинных душ из-за каких-то личных счетов, увидели их страдания. Они выгнаны не на жительство, а на живую муку, которую мы еще не видели от сотворения мира, какие в настоящий момент сделаны при советской власти. Когда мы были на севере, мы были очевидцами того, как по 92 души умирают в сутки; даже нам пришлось хоронить детей, и всё время идут похороны.*

*Это письмо составлено только вкратцах, а если побывать там недели, как мы были, то лучше бы провалилась земля до морской воды и с нею вся вселенная и чтобы больше не был свет и всё живущее на ней. Но пролетария, живущая по деревням, ужаснулась этого положения и напрямик задумала раскулачить рабочих по городам, как над крестьянами есть издевательство. Просим принять это письмо и убедиться над кровавыми крестьянскими слезами".*

*Подпись неразборчивая.*

**Падрыхтавала Юлія БРУК.**

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *15.08.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/